

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№173 (686) 3 верасня 1993 г. Пятніца . Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 500400 экз. Кошт у розніцу — 15 руб.


## ФАКС

### Уютно станет в бывших забегаловках

**За месяц до новых аукционных торгов власти Бреста организовали пресс-конференцию, посвященную городской программе приватизации.**

На пресс-конференции отмечалось, что это единственная в республике столь тщательно разработанная и целостная программа. Первым пунктом ее запланирована так называемая малая приватизация, в рамках которой на два осенних аукциона определен перечень небольших объектов торговли и общественного питания. Собственниками их могут стать как трудовые коллективы, так и любые юридические либо физические лица Республики Беларусь.

**Василий САРЫЧЕВ.**

### "Тройки": пришла пора платить по векселям

**С того времени, как Василина Захаровна Коваленко первой на Гомельщине получила компенсацию за добро раскулаченного отца, в области объявилось более четырех тысяч прямых наследников зажиточных крестьян, репрессированных в годы сталинщины.**

Три с лишним тысячи заявлений облисполкомовская (какое невероятное совпадение) "тройка" уже рассмотрела и в большинстве случаев посчитала обоснованными. Есть претензии и на миллион рублей. Но что такое сегодня миллион?

**Виктор КОТОВ.**

### 8 сентября — просто день календаря?

**Категорически запретил отмечать 8 сентября — очередную годовщину победы войск Великого княжества Литовского над русскими дружинами под Оршей — Витебский горисполком.**

Таков его ответ на просьбу общественного комитета по проведению торжества помочь в организации концерта, фейерверка и выездной торговли на площади Свободы. По мнению городской власти, празднование этой даты противозаконно, может возбудить национальную вражду и нарушение порядка. Отдел культуры и народного образования исполкома предложил городской газете дать разъяснения "истинной правды о битве под Оршей".

**Сергей СВОБОДНЫЙ.**

### Погода и здоровье

**3 сентября погода в Минске и области будет формироваться под влиянием поля пониженного давления. Содержание кислорода в воздухе ожидается ниже средних многолетних данных.**

Сегодня может ухудшиться состояние больных сердечно-сосудистыми заболеваниями. Им рекомендуется соблюдать диету, почаще проветривать помещение, а также принимать лекарства, назначенные врачом. Людям, склонным к понижению артериального давления, следует принимать тонизирующие средства.

**Антонина КАРОЗА, научный сотрудник БелНИИ кардиологии.**



### Вкратце

**Российский большой десантный корабль, на который в Сухуми было погружено 32 единицы грузинской боевой техники, вывозимой из Абхазии, прибыл вчера в Поти и приступил к разгрузке.**

❑

Левон Тер-Петросян призвал руководство Нагорного Карабаха "незамедлительно отвести свои отряды на сложившуюся ранее линию размежевания" противоборствующих сторон.

Как сообщалось ранее, 31 августа было достигнуто соглашение по прекращению огня в Нагорном Карабахе.

❑

**С началом нынешнего учебного года в Туркменистане срок обучения в школах сокращен с 10 до 9 лет, а в высших учебных заведениях — с 5 до 4 лет.**

Это сделано из-за сокращения ряда учебных дисциплин — истории КПСС, СССР и других обществоведческих предметов.

❑

**Руководитель Грузии Эдуард Шеварднадзе вылетел вчера утром в Западную Грузию.**

Поездка вызвана тем, что с конца прошлой недели в Западной Грузии активизировались сторонники экс-президента Звиада Гамсахурдиа.

❑

**Сегодня состоится встреча президентов России и Украины Бориса Ельцина и Леонида Кравчука в Мухалатке близ Ялты.**

Будут рассмотрены три группы вопросов: по Черноморскому флоту, военные и экономические.

❑

**Милли-меджлис (парламент) Азербайджана назначил новые президентские выборы на 3 октября.**

Перед этим депутаты утвердили окончательные результаты референдума 29 августа, в ходе которого, согласно обнародованным данным, 97,5% пришедших голосовать отказали в доверии президенту Абульфазу Эльчибею.

❑

**Вывод российских войск из Германии идет строго по графику.**

Из 777 военных городков немецкой стороне переданы более 580. Российские войска полностью выведены из трех земель Германии. В двух других их число заметно сократилось.

❑

**В городе Форт-Шевченко Мангистауской области сложилась катастрофическая ситуация из-за отсутствия питьевой воды.**

Единственный местный источник пресной воды — артезианская скважина исчерпала резервы и практически не фонтанирует, а из столицы Азербайджана танкеры с живительной влагой приходят крайне нерегулярно.

❑

**Две противоборствующие группировки афганских моджахедов подписали соглашение о прекращении огня.**

После заключения перемирия ожидается обмен пленными.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### Под крышей дома своего...

**Более полутысячи гектаров, по изъятии этих земель у колхозов и совхозов, выделено для размещения коттеджей вокруг Витебска.**

Конечно, частная усадьба не каждому по карману. Тем не менее очередь горожан, желающих поселиться под персональной крышей, составляет сегодня, по данным Витебского горисполкома, почти 4 тысячи человек.

**Сергей СЕРГЕЕВ.**

*Дежурная часть*

### Сила камень ломит?

**Поздно вечером в Витебске на территории военного кладбища были разбиты пятнадцать надгробных плит.**

Это сделали два ученика местной школы.

### Деньги на бочку!

**Десять миллионов рублей потребовали вымогатели в Гомеле у начальника подсобного хозяйства станции "Центролит" Белорусской железной дороги.**

В момент передачи денег трое парней — ими оказались местные жители — задержаны.

**Андрей АРШАНСКИЙ.**

### Спорт-экспресс

**На завершившемся в австрийском городе Фишлхам чемпионате Европы по водным лыжам минчанка Алеся Павлова выиграла фигурное катание.**

Ее одноклубница Татьяна Канайкина поднялась на третью ступеньку пьедестала почета. Из наших мужчин попасть в число призеров удалось только Олегу Девятовскому, завоевавшему "бронзу".

❑

**На Минском море завершился чемпионат республики по парусному спорту.**

В командном зачете безоговорочное первенство за яхтсменами столицы республики.

### Не дадут стране угля

**Российские угольщики проведут 6 сентября забастовку в масштабах страны.**

Такое решение принято большинством участников состоявшегося вчера селекторного совещания представителей 27 шахтерских регионов России.

Угольщики настаивают в первую очередь на выполнении правительством в полном объеме отраслевого тарифного соглашения на 1993 год (по оценке профсоюзов оно выполняется лишь наполовину), на безотлагательном выделении — и тоже в полном объеме — необходимых отрасли дотаций за восемь месяцев этого года.

**Владимир ЕГОРОВ.**

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, Интерфакс, БелаПАН и РИД.**

*Рэспубліка Беларусь — Федэратыўная Рэспубліка Германія*

## С.С.Шушкевіч: "Мы хацелі б знайсці добры варыянт узаемадзеяння з нямецкімі землямі..."

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ**

Ужо не ў першы раз заўважаю: каб стаць палітыкам, трэба быць жаўруком. Вось і гэты рабочы візіт Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслава Станіслававіча Шушкевіча ў Федэратыўную Рэспубліку Германія пачаўся, калі Мінск яшчэ ахутваў густы змрок. Недзе ў пяць гадзін раніцы члены дэлегацыі былі ўжо на нагах. Пераезд у аэрапорт, што пад Смалявічамі, — і самалёт з прыгожым надпісам "БелАВІА" набірае вышыню, вызначаючы курс на Дзюсельдорф.

Афіцыйна візіт С.С.Шушкевіча ў ФРГ называецца рабочым. І накіроўваўся наш кіраўнік у краіну, якая ў палітычным і эканамічным жыцці Еўропы адыгрывае важную ролю. Вось што сказаў С.С.Шушкевіч у час невялічкай прэс-канферэнцыі, наладжанай прама на борце самалёта:

— Візіт праходзіць па ініцыятыве прэм'ер-міністраў дзвюх германскіх зямель — Паўночны Рэйн-Вестфалія і Брандэнбург. Мы даўно вельмі добра кантактуем з гэтымі землямі. Пераважна па лініі ўрада — з зямлёй Брандэнбург і ў большай ступені пераважна па лініі Вярхоўнага Савета (пасля да гэтага далучыліся і ўрадавыя структуры) — з зямлёй Паўночны Рэйн-Вестфалія.

Зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія — найбольшая і найбагацейшая ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германія. Яе насельніцтва — 17 мільёнаў чалавек. За год тут здабываецца, для прыкладу, каменнага вугалю ў два разы больш, чым разведаныя запасы вугалю на Беларусі. А што да зямлі Брандэнбург, то яна — адна з найбольш развітых зямель у былой ГДР. І цяпер трэба знаходзіць варыянты ўзаемадзеяння, варыянты канверсіі, якія б спрыялі той лініі, што праводзіць нямецкі ўрад пасля аб'яднання, і той лініі, якую хацелі б праводзіць мы.

Гэтыя землі — параўнальныя з Рэспублікай Беларусь структуры ў сэнсе тэрыторыі і колькасці насельніцтва. І таму з імі ў эканамічным аспекце лягчэй дасягнуць пагаднення. Да гэтага спрыяльна ставіцца і ўрад Федэратыўнай Рэспублікі. Таму мы накіроўваемся з візітам, які павінен фактычна адзначыць асноўныя накірункі дзейнасці. Яны ўжо даўно вызначаюцца ў розных галінах і абагульняюцца ў пэўным сэнсе ўрадам. Але трэба мець стратэгію на многія гады і вялікую перспектыву... Акрамя таго, мы наведаем выстаўку сродкаў тэлекамунікацыі ў Берліне.

Мы таксама хацелі б у час гэтай паездкі выказаць падзяку тым нямецкім грамадскім дзеячам, якія, дарэчы, атрымалі дзяржаўныя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь за дзейнасць, накіраваную на паляпшэнне работы нашых медыцынскіх устаноў, на аздараўленне нашых дзяцей. Асабліва хацелася б адзначыць уклад спадарыні Шноор. Гэтая дзейнасць працягваецца. І мы хацелі б абмеркаваць такі аспект. У нас у медыцыне ёсць пэўныя напрацоўкі, але не хапае сродкаў, адпаведнай тэхналогіі. Мы не хацелі б звяртацца да германскіх партнёраў як жабракі. Дзякуючы таленту і кваліфікаванасці нашых спецыялістаў мы — не выключана — маглі б прапанаваць свае паслугі і жыхарам Германіі. Гэта адна з пазіцый, якая таксама будзе абмяркоўвацца ў час візіту.

Мы прывялі толькі невялікі фрагмент гутаркі на борце самалёта. Прыкладна дзве гадзіны беларуская дэлегацыя знаходзілася ў паветры, і ўвесь гэты час размова вялася вакол адносін Беларусі з Германіяй. Дарэчы, склад нашай дэлегацыі невялікі. Узначальвае яе, вядома, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіч. Разам з ім прыбыў у ФРГ намеснік Старшыні Савета Міністраў, старшыня Дзяржэканамплана С.С.Лінг. Афіцыйнымі членамі дэлегацыі з'яўляюцца таксама старшыня Камісіі па ахове здароўя Вярхоўнага Савета С.М.Котаў і аўтар гэтых радкоў, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар "Народнай газеты". У візіце прымаюць удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у ФРГ П.В.Садоўскі, дарадчыкі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь А.А.Міхайлаў і М.М.Кавалёў, начальнік упраўлення Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па знешніх эканамічных сувязях А.А.Дабрамудраў, вядомы прадпрымальнік А.І.Трухановіч, іншыя асобы.

У 9 гадзін раніцы па мясцоваму часу самалёт з беларускай дэлегацыяй прызямліўся ў аэрапорце Дзюсельдорф-Лохаўзен. Яе вітаў намеснік прэм'ер-міністра зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія доктар Шноор. Гучаць гімны Беларусі, Федэратыўнай Рэспублікі Германія, зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія. Ганаровы эскорт накіроўваецца ў рэзідэнцыю прэм'ер-міністра, дзе нашу дэлегацыю чакалі дзяржаўныя дзеячы, кіраўнікі шэрагу вядомых фірм. Адбылася зацікаўленая размова, абмен думкамі па самых актуальных пытаннях эканамічнага і палітычнага жыцця.

Затым прайшлі перагаворы, як кажуць, у вузкім коле — Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіч меў сустрэчу з прэм'ер-міністрам зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Рау і яго намеснікам, міністрам унутраных спраў доктарам Шноорам.

Пасля прэс-канферэнцыі Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіча і прэм'ер-міністра зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Іаганеса Рау наша дэлегацыя правяла перагаворы з дэлегацыямі шэрагу дзяржаўных структур нямецкай зямлі.

У гонар гасцей суверэннай Беларусі быў дадзены абед у рэзідэнцыі прэм'ер-міністра.

Напружанай і цікавай была праграма візіту і ў другой палове дня. Прадстаўнікі Беларусі грунтоўна азнаёміліся з тым, што ўяўляе для нас вялікі інтарэс.

У гэты ж дзень Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.С.Шушкевіч і суправаджаючыя яго асобы прыбылі ў сталіцу зямлі Брандэнбург. У Патсдаме нашу дэлегацыю цёпла вітаў прэм'ер-міністр Доктар Штольпе. Кіраўнік беларускага парламента і члены дэлегацыі правялі зацікаўленыя перамовы з нямецкім бокам.

Візіт працягваецца, аб некаторых яго падрабязнасцях я паспрабую расказаць чытачам "Народнай газеты" ў наступным нумары.

*Мінск—Дзюсельдорф—Патсдам.*

*Нацыянальны прэс-цэнтр Беларусі: актуальны дыялог*

### Хто вызначыць стратэгію ў галіне экалогіі?

**Віктар ЧАРНУШЭНКА**

**Адказ на гэтае пытанне будуць шукаць прадстаўнікі дзесяткаў урадавых і іншых арганізацый краін далёкага і блізкага замежжа на міжнароднай канферэнцыі "Аб стратэгіі ў галіне аховы навакольнага асяроддзя Беларусі", якая пачне сваю работу 6 верасня ў Мінску.**

Не выпадкова, што наша рэспубліка першай сярод краін СНД стала аб'ектам дэталёвага вывучэння экспертамі Сусветнага банка. Праект, які яны падрыхтавалі, будзе грунтоўна абмеркаваны ў ходзе тыднёвай дыскусіі вучоных, спецыялістаў на пасяджэннях дванаццаці рабочых груп розных накірункаў.

— Экалагічная абстаноўка на Беларусі сапраўды вельмі складаная, — адзначыў падчас сустрэчы з журналістамі намеснік старшыні Дзяржкамэкалогіі рэспублікі Аляксандр Агрызаў. — Каля дваццаці працэнтаў захворванняў людзей так ці інакш звязаны са шкодным уздзеяннем навакольнага асяроддзя. Чарнобыль і без таго намнога ўскладніў вырашэнне шматлікіх праблем...

Патрэбна неадкладна распрацаваць адзіную нацыянальную экалагічную праграму. Вынікі работы гэтага форуму будуць даведзены да ўрада рэспублікі, магчыма, знойдуць адлюстраванне пры распрацоўцы такой праграмы. Ёсць спадзяванні на канкрэтную фінансавую, тэхнічную дапамогу ў рэалізацыі розных экалагічных праектаў і з боку Сусветнага банка.

Трэба, аднак, заўважыць, што асобныя палажэнні праекта даклада на канферэнцыі ўжо крытычна ацэнены некаторымі беларускімі навукоўцамі. Значыць, будзе палеміка. А яна нараджае ісціну.

*Служым Рэспубліцы Беларусь!*

### Клятва на вернасць Бацькаўшчыне

**5 верасня ў другі раз у гісторыі Беларусі выстраяцца на плошчы Незалежнасці ў Мінску роты маладых курсантаў-першагодкаў ваенных вучылішчаў рэспублікі, каб сказаць раз і на ўсё жыццё словы прысягі.**

А потым, ужо ў рангу паўнапраўных, юрыдычна прызнаных воінаў Узброеных Сіл, урачыстым маршам пройдуць будучыя афіцэры па праспекту Францыска Скарыны на плошчу Перамогі, каб па-салдацку строга, але шчыра аддаць даніну павагі героям-франтавікам, партызанам і падпольшчыкам Вялікай Айчыннай вайны, ускласці жывыя кветкі да помніка-абеліска іх светлай памяці.

**Белінфарм.**



*З першых вуснаў*

### Нашто нам сядзець на парахавой бочцы, прыкурваючы дрэннымі запалкамі?

**"На тэрыторыі былога СССР толькі Расія мае маральнае права валодаць ядзернай зброяй, — заявіў у інтэрв'ю кабельнаму тэлебачанню НБО ЗША Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч. — Наша рэспубліка, Украіна і Казахстан, нягледзячы на значны навукова-тэхнічны патэнцыял, наўрад ці змаглі б стварыць яго ўласнымі сіламі".**

Захоўваць ядзерныя зарады на тэрыторыі Беларусі, на думку кіраўніка парламента, гэта, вобразна кажучы, што сядзець на парахавой бочцы і прыкурваць дрэннымі запалкамі. Наяўнасць у рэспубліцы зброі масавага паражэння стварае пагрозу яе нацыянальнай бяспецы. У выпадку ўзнікнення ваенных канфліктаў паміж вялікімі дзяржавамі нападаючы бок заўсёды будзе імкнуцца падавіць кропкі запуску атамнай зброі праціўніка. Іх на нашай зямлі ў перыяд "халоднай" вайны размясцілі дастаткова, каб рэспубліка стала цэллю на поўнае паражэнне.

Мець парахавы склеп на галоўным шляху з Расіі ў краіны Захаду, падкрэсліў С.Шушкевіч, проста вар'яцтва. Беларусь мае намер паскорыць вывад стратэгічнага ўзбраення са сваёй тэрыторыі, каб бяз'ядзерны пояс Еўропы расшырыўся ад рубяжоў Францыі да граніц Расійскай Федэрацыі.

**Белінфарм.**

*З грамадскай прыёмнай "Народнай газеты" тэл. 29-60-86*

### Трывожныя званкі

Трывожныя званкі раздаюцца ў гэтыя дні.

— Ало, "Народная"? Чаму ты маўчыш? Чаму не пішаш аб сапраўдных мэтах правакатараў, якія збіраюцца на свой шабаш у пачатку верасня? Называюць яны сябе гучна — кангрэс беларускага народа. Але ж мы ведаем, што збіраюцца камуністы ды расійскія адстаўнікі... Гэта яны — народ? А якія мэты? Патрабуюць аднаўлення імперыі — былога СССР. Гэта прамы выклік нашаму народу, яго свабодзе, адкрытае выступленне супраць дзяржавы. Куды глядзяць улады, пракуратура? Чаму не забараняюць гэтае зборышча расійскіх адстаўнікоў? Ці, можа, яны з імі заадно? Дзе голас дэмакратычных партый і рухаў?.. Вы хочаце, каб мы, мінскія рабочыя, самі іх разагналі? Тады дачакаецеся...

Такія трывожныя маналогі чуюцца ў тэлефоннай трубцы ўсё часцей. І гэта якраз той момант, калі ўлады абавязаны прыслухацца да іх.

**Сяргей ПЯТРОЎ.**

*Глас народа*

### Что на душе у молодых?

В июле 1993 года Научно-исследовательский институт труда и Белорусская служба "Общественное мнение" провели опрос молодых граждан республики. В ходе опроса было изучено мнение 2000 респондентов в возрасте от 15 до 29 лет, представляющих все социальные группы во всех областях Беларуси.

Вопрос: Какие эмоциональные чувства чаще всего владеют вами в последнее время?

**Ответы (в процентах к числу опрошенных):**

| | |
|---|---|
| **1. Уверенность** | — 13,0 |
| **2. Надежда** | — 36,7 |
| **3. Спокойствие** | — 22,5 |
| **4. Безразличие** | — 10,3 |
| **5. Обида** | — 7,2 |
| **6. Ненужность** | — 4,5 |
| **7. Безысходность** | — 5,2 |
| **8. Другое** | — 0,6. |

*Заява выканаўчага камітэта БСДГ*

### Нашу эканоміку могуць ураТаваць толькі рэальныя рэформы і людзі, здольныя іх ажыццявіць

25 жніўня мінула два гады, як Вярхоўны Савет Беларусі надаў канстытуцыйны статус Дэкларацыі аб суверэнітэце, аб'явіўшы нашу рэспубліку незалежнай дзяржавай.

Што дала і чаго не дала нам незалежнасць? За гэтыя два гады нашых дзяцей перасталі пасылаць паміраць у "гарачыя кропкі", зменшылася верагоднасць уцягнення нашага народа ў чарговае жорсткае супрацьстаянне ў Расіі, якое можа прывесці да грамадзянскай вайны.

У той жа час два гады незалежнасці — гэта час страчаных для нашага народа магчымасцей закласці аснову сваёй дзяржавы, падмурак уласнай эфектыўнай эканомікі. Нашы суседзі з Прыбалтыкі і Расіі пачалі праводзіць, хай і не без памылак, рэальныя эканамічныя рэформы, якія пачынаюць працаваць на іх грамадствы. У Расіі назіраецца павышэнне жыццёвага ўзроўню народа. У Беларусі сітуацыя процілеглая — пракамуністычны ўрад аказаўся здольным толькі на імітацыю рэформ, што вядзе да рэзкага зніжэння жыцця народа. Больш таго, урад і яго прыхільнікі свядома кампраметуюць у вачах народа рыначныя рэформы і дзяржаўную незалежнасць. Увесь час яны чакалі і чакаюць, калі ў Расіі адхіляць ад улады Ельцына і можна будзе абысціся без рэформ. Такая палітыка прывяла краіну да палітычнага і эканамічнага тупіка.

У цывілізаваных краінах кіраўнікоў урада, якія аказаліся няздольнымі кіраваць эканомікай, адпраўляюць у адстаўку. У нас жа пачаліся пошукі замежных "дабрадзеяў", якія б узялі на ўтрыманне эканоміку краіны. Прапануемая ж плата за "спонсарства" — страта дзяржаўнасці і ўцягненне нас у вір непрадказальных палітычных падзей у краінах СНД. Таму і едуць саветнік Старшыні Савета Міністраў і кіраўнік праўрадавага парламенцкага аб'яднання ў Маскву — прасіцца ў канфедэрацыю, таму і цягнуць Беларусь у ваенны саюз, спрабуючы крывёй нашых дзяцей сплаціць магчымасць яшчэ колькі часу пратрымацца ва ўладзе.

Але гэта марныя спадзяванні. У Расіі занадта шмат уласных праблем, каб утрымліваць яшчэ і беларускі сацыялізм. Тым больш што хутка цана бензіну будзе аднолькавая і ў Парыжы, і ў Варшаве, і ў Ніжнім Ноўгарадзе. Нас, нашу эканоміку могуць уратаваць толькі рэальныя рэформы і людзі, здольныя іх ажыццявіць.

Выканаўчы камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады лічыць, што збанкрутаваўшыя палітыкі, якія даказалі сваю няздатнасць да кіравання краінай, павінны сысці з палітычнай арэны. Мы рашуча выступаем супраць прапановы аб канфедэрацыі, патрабуем адстаўкі пракамуністычнага кіраўніцтва ўрада на чале з В.Ф.Кебічам і стварэння кааліцыйнага ўрада нацыянальнага даверу.

**Выканкам Цэнтральнай рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады.**

